


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.*

№ 15 (96). 8 — 14 красавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 20 тыс. руб.


## ХРИСТОС ВОСКРЕСЕ!

Этими словами Святая Православная Церковь предпоследний раз в XX столетии возвещает наступление Святой ПАСХИ — Праздника всех праздников и Торжества всех торжеств, знаменующего собой переход от смерти к вечной и блаженной жизни. Эта благая весть наполняет наши сердца неизреченной радостью и нерушимым упованием и верой в грядущее всеобщее Воскресение. В сей благословенный день упраздняются все печали и невзгоды, и даруется жизнь и утешение. Ныне вся Полнота Православия соединится в едином ликовании и ангельском пении: "Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ, и сущим во гробех живот даровав".




Сегодня — день спасения, день радости и мира о Христе. Откроем же, распахнем сердца наши навстречу Страдавшему, Умершему и Воскресшему ради нас. Разорвем оковы неправды и всякой нечистоты, которую навязывают нам явные и тайные враги веры Христовой, и тогда войдет Он и наполнит Собой нашу жизнь, "насладит пира веры и богатство благости".

**ХРИСТОС ВОСКРЕСЕ — ВОИСТИНУ ВОСКРЕСЕ!**
**ГУРИЙ, Епископ Новогрудский и Лидский**

## У Слоніме сфарміраваны Саветы

**Падведзены вынікі галасавання па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў, якія адбыліся 4 красавіка.**

Выбары ў Слонімскі гарадскі Савет дэпутатаў 23-га склікання прайшлі па 34 акругах. У галасаванні прынялі ўдзел 69,9 працэнтаў выбаршчыкаў. Абрана 29 дэпутатаў, а па пяці акругах, дзе балатаваліся два і болей кандыдатаў, будзе праведзена паўторнае галасаванне, паколькі ні адзін з іх не набраў неабходнай колькасці галасоў.

У раённы Савет выбраны ўсе 32 дэпутаты. На вёсцы ў выбарах прынялі ўдзел 89,5 працэнтаў выбаршчыкаў. Дэпутатамі абласнога Савета выбраны Віктар Чорны і Часлаў Шмігіра.

Па 20-й і 21-й слонімскіх выбарчых акругах будзе праведзена паўторнае галасаванне ў Гродзенскі абласны Савет. У другі тур галасавання там выйшлі Тамара Жыткевіч і Канстанцін Зубко, Вольга Галавенка і Генадзь Урбановіч.

Па папярэдніх звестках у Азгінавіцкі і Жыровіцкі сельскія Саветы не выбраны ў дэпутаты Генадзь Красачка, былы старшыня калгаса імя Леніна і Васіль Роля, галоўны аграном сортавыпрабавальнай станцыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАВІНЫ**

### Кадравая ракіроўка

**Невыключана, што ў бліжэйшы час у кіраўніцтве Слоніма адбудуцца змены.**

А падставай для кадравай ракіроўкі стала заява Жана Сікорскага аб звальненні з пасады дырэктара вінзавода па стану здароўя. Плануецца, што яго крэсла зойме цяперашні дырэктар фабрыкі "Тэкстыльшчык" Тамара Жыткевіч. У сваю чаргу на месца кіраўніка "Тэкстыльшчыка" рэкамендуецца кандыдатура намесніка старшыні гарвыканкама Міхаіла Акуліка.

У выніку, у Слонімскім выканаўчым камітэце могуць з'явіцца два вакантныя месцы намеснікаў старшыні гарвыканкама. Раней "ГС" пісала, што Война Угрыновіч, намеснік Алега Лакцюшына, магчыма зойме пост старшыні гарсавета дэпутатаў.

**Анатоль МІРСКІ**

### Божы падарунак?..

**Незвычайна пашанцавала адной жанчыне, калі яна раніцай 4 красавіка выходзіла са слонімскага касцёла св.Андрэя.**

На плошчы Льва Сапегі бабуля знайшла раскіданыя стотысячныя купюры беларускіх рублёў. Сабраўшы вялікую кіпу грошай, яна пайшла дахаты, падзякаваўшы Бога за такі шчодры падарунак на каталіцкі Вялікдзень.

**Алег ТАЧОНЫ**

# МИХАИЛ ЧИГИРЬ — ЗА РЕШЕТКОЙ




**Как известно, кандидат в президенты Михаил Чигирь сейчас содержится в следственной камере.**

Пресс-центр МВД распространил сообщение, в котором отмечается, что в ближайшие дни будет решен вопрос о предъявлении обвинения бывшему председателю правления "Белагропромбанка" Михаилу Чигирю, арест которого по подозрению в хищении в особо крупных размерах санкционирован Прокуратурой Республики Беларусь. По словам супруги кандидата в президенты М.Чигиря Юлии Чигирь, срок содержания под стражей ее мужа продлен еще на десять суток. Ю.Чигирь посетила штаб-квартиру консультативно-мониторинговой группы ОБСЕ, куда намерена передать свое заявление о том, что Михаила Чигиря арестовали за участие в предвыборной кампании. Юлия Чигирь категорически не допускает того, что ее муж может быть замешан в каких-либо преступлениях.

В квартире Чигиря был произведен обыск, который продолжался более трех часов. Обыск проводили следователи прокуратуры Гарбуз и Рязанов. Как заявила жена Михаила Чигиря Юлия, в результате обыска были изъяты в качестве вещественных доказательств три ежегодника ее мужа, телефонный справочник "Белагропромбанка", изданный в 1991 году, справка Прокуратуры Республики Беларусь от 1995 года по результатам проверки фактов, изложенных в докладе депутата Верховного Совета Беларуси 12-го созыва Сергея Антончика, а также 19 страниц бюллетеня ценных бумаг из сети Интернет.

Наложен арест на имущество семьи Чигирей. В настоящее время Юлия Чигирь — профессиональный юрист — готовит обращение на имя генерального прокурора Беларуси Олега Божелко. Она обращает внимание генпрокурора на то, что исполняющий обязанности начальника управления следственного комитета МВД Беларуси полковник А.Лавренюк необоснованно, на ее взгляд, отказал ей в праве выступать защитником по делу мужа.

Тем временем группа депутатов российской Госдумы приняла специальное заявление, в котором требует немедленного освобождения Михаила Чигиря и других политических заключенных в Беларуси.

В документе подчеркивается, что пойдя на интеграцию с соседним государством, российские власти должны были осознать, что в таком случае они берут на себя ответственность за складывающуюся в Беларуси ситуацию в сфере прав человека. Ограничения на свободу собраний, введение цензуры в СМИ, ликвидация законно избранного парламента — все это свидетельствует об установлении тоталитарного режима в Беларуси.

Авторы заявления указывают на то, что арест кандидата в президенты Беларуси Михаила Чигиря свидетельствует о начале нового этапа политических гонений.

**БелаПАН**

# ПАМЁР ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА




**6 красавіка ў 7.15 раніцы ў рэанімацыі 9-й клінічнай бальніцы Мінска на 50-ым годзе жыцця памёр вядомы беларускі палітык Генадзь Карпенка.**

У бальніцу Г. Карпенка трапіў 1 красавіка з дыягназам "кровазліццё ў мозг". Пасля аперацыі ён увесь час знаходзіўся ў коме.

Генадзь Карпенка па адукацыі — інжынер-металург, доктар тэхнічных навук, член-карэспандэнт нацыянальнай Акадэміі навук. Ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета XII і XIII скліканняў. Карпенка з'яўляўся адным з кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі Беларусі, са студзеня 1997 года ўзначальваў Нацыянальны выканаўчы камітэт (ценявы ўрад Беларусі).

**Наталля ФУРСАВА**

## Органы цікавяцца прэзідэнцкімі выбарамі

**Як ужо паведамляла "ГС", 16 траўня гэтага года павінны адбыцца выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Кандыдатамі ў прэзідэнты зарэгістраваны Зянон Пазьняк і Міхаіл Чыгір, пасля таго, як за іх была сабрана неабходная колькасць подпісаў за вылучэнне кандыдатамі. Аднак улады крайне негатыўна ўспрынялі гэтую перадвыбарчую кампанію. Па ўсёй Беларусі прайшла хваля папярэджанняў, арыштаў і штрафаў у дачыненні да збіральнікаў подпісаў. Дакацілася яна і да Слонімшчыны.**

Яшчэ 19 сакавіка міліцыянеры наведаліся да жыхара Сялявіч Генрыха Засімовіча, які займаўся ў вёсцы зборам подпісаў за Зянона Пазьняка. Засімовічу паабяцалі, што "калі не возьмецца за розум", яго прыцягнуць да адказнасці і пасадзяць на суткі за дробнае хуліганства. А 5 красавіка Г. Засімовіч быў выкліканы ў слонімскую міжрайпракуратуру, дзе атрымаў папярэджанне за збор подпісаў.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў прыехалі на працу да выкладчыка Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума Ігара Пададрадзецкага, які таксама збіраў подпісы за Пазьняка. Калі капітан міліцыі Ігар Смоляр прадставіўся, дык чалавек у цывільным сваё прозвішча назваць адмовіўся. Іх мэтай была "прафілактычная" гутарка пра "незаконныя дзеянні" І. Пададрадзецкага.

Была папярэджана і прадавец магазіна ў вёсцы Шундры Наталля Раманюк, якая збірала подпісы за Пазьняка. Да яе на працу завіталі ўчастковы міліцыянер і некалькі чалавек у цывільным. Яны канфіскавалі ў Раманюк незапоўненыя падпісныя лісты, а таксама адзін ліст з подпісамі вяскоўцаў.

6 красавіка ў міліцыю да следчага Алы Сасновіч былі выкліканы "у якасці сведкаў" кіраўнік слонімскага "Маладога фронту" Алесь Масюк і актывіст БНФ Мікалай Ракевіч. Па некаторых звестках, падобныя позвы ў міліцыю атрымалі яшчэ некалькі слонімскіх франтаўцаў. Следчыя, у адпаведнасці з інструкцыяй, якую атрымалі з Мінска, цікавяцца дзейнасцю слонімскіх гарадской і раённай камісій па выбарах прэзідэнта.

**Сяргей ЁРШ**

### Пажарны рэйд

**Днямі Слонімскі дзяржпажнагляд правёў рэйд з мэтай праверкі супрацьпажарнай бяспекі ў сельскай мясцовасці.**

У калгас "Рассвет" рэйдавая брыгада прыехала якраз у той момант, калі агонь ад падпаленай леташняй травы падбіраўся да будынка жывёлагадоўчай фермы вёскі Старая Перавалока.

Высветлілася, што траву падпаліў даглядчык Іван Лязерка на вачах у загадчыка фермы Мікалая Пузыновіча. Абодва яны былі аштрафаваны за парушэнне правілаў пажарнай бяспекі.

Вечарам таго ж дня рэйдавая брыгада завітала на мехдвор калгаса "Перамога". Там было ціха і бязлюдна. Праз хвілін дваццаць работнікам пажарнага нагляду ўсё ж удалося знайсці ўшчэнт п'янага мужчыну, які спаў прама на стале ў дзяжурцы. У яго спыталі, хто ён такі.

— Дзядзя Міша я! — толькі і змог прамармытаць мужчына.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Кожнаму — па кілаграму

**У жыхароў Мастоў і раёна вялікая радасць: напрыканцы сакавіка ім прадалі па кілаграму цукру.**

Адзначым, што ў горадзе цукар прадаецца па картках, на вёсцы — па спісах.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Спадабаўся сцяг

**Неардынарны выпадак здарыўся напярэдадні выбараў у Слоніме на Брэсцкай вуліцы.**

Вучань адной з гарадскіх школ сарваў чырвона-зялёны сцяг, які вісеў ля ўваходу на Сонечным выбарчым участку №11 і пабег з ім дамоў. Міліцыя "вылічыла" яго хутка, і сцяг зноў быў змешчаны на ранейшае месца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

СЛОНІМ: ВУЛІЦА ЧЫРВОНЫХ ПАРТЫЗАН

# ТУТ СПАКОЙНА І ЦІХА...

**Цяжка сказаць, чаму вуліцу назвалі менавіта так — "Чырвоных партызан". Вось у Мінску ёсць проста Партызанскі праспект, без якіх - небудзь "колераў". А ў нас менавіта "чырвоных"... Можа гэта таму, што на Слонімшчыне партызаны ў апошнія войны былі розныя: і "белыя", і "зялёныя", і іншыя? Вядома, у часы савецкай улады ўшанаваць маглі толькі "чырвоных" партызанаў, якія за яе ўсталяванне і змагаліся...**

**— У нас тут спакойна, — гаворыць мне мясцовая жыхарка, — нікога яшчэ не забілі, нікога не зарэзалі...**

### Праблемы ёсць і на могілках

Найчасцей у жыхароў горада вуліца Чырвоных партызан асацыіруецца з могілкамі, якімі яна і заканчваецца. Дзейнічаюць мясцовыя могілкі ўжо каля трыццаці гадоў.

Валянціна Іванаўна Раманоўская даглядае за могілкамі адна ўжо пяць гадоў. Там яна жыве і працуе. Раней Валянціна Раманоўская жыла ў інтэрнаце, гадоў 20 стаяла ў чарзе на кватэру, мае каля 40 гадоў

*Валянціна Раманоўская*

працоўнага стажу. Там, на могілках, яна і атрымала ведамасную кватэру.

— Я рэгіструю пахаванні, прыглядаю за могілкамі, прыбіраю цэнтральныя дарожкі, — гаворыць Валянціна Іванаўна. — Рабочы дзень у мяне з 8 да 16.00, але і ўвечары хаджу, прыглядаю. Бо ў апошні час здараецца, што нехта зрывае фотаздымкі з крыжоў. Дзеці ці сатаністы якія, не ведаю. Магілкі вялікія, за ўсім не дагледзіш...

Раманоўская кажа, што найвялікшая праблема на могілках — вада. Летам ваду



*Дарога на могілкі*

сюды прывозяць, у асноўным, для паліўкі. А сабе яна возіць ваду ў бідоне аж з пачатку вуліцы, дзе ёсць калонка...

Па словах Валянціны Раманоўскай, жыць каля могілак цяжка, як і працаваць. — Трэба чалавеку мець каменнае сэрца, каб тут рабіць. А ў мяне такі характар, што ўсіх шкадую. Столькі маладых памірае!...- кажа Раманоўская.

### Пра кіраўніка горада, якога баяліся

Жыхары вуліцы Чырвоных партызан упэўнены, што заснаваў яе на пачатку 70-х гадоў былы кіраўнік Слоніма Васіль Пеляніцын.

— Ён праводзіў дарогу да новых могілак, — гаворыць пенсіянерка Юлія Пракоф'еўна; якая жыве тут з 1975 года, — яна і стала вуліцай. Чаму назвалі так? А хто іх ведае, чаму такую назву далі...

Пасля смерці Васіля Пеляніцына прайшло ўжо 24 гады, але многія людзі яго памятаюць. Ён быў старшынёй райвыканкама і застаўся ў памяці слонімцаў, як добры гаспадар. Старажылы ўспамінаюць, што Пеляніцын любіў кожную раніцу аб'язджаць горад, каб ведаць, што дзе адбываецца. Быў Пеляніцын вельмі патрабавальны да падначаленых, усё сам трымаў на кантролі. Васіль Іванавіч лічыў сябе добрым спецыялістам ва ўсіх галінах і не цярпеў ніякай крытыкі ў свой адрас...

Хвалі Пеляніцына тысячы людзей. Работнікі многіх прадпрыемстваў стыхійна спынілі работу і прынялі ўдзел у яго пахаванні. Увесь шлях да могілак труну кіраўніка горада неслі на руках...

Не выпадкова недалёка ад могілак запланавана яшчэ адна вуліца, якая будзе насіць імя Васіля Пеляніцына. Яна ўжо пазначана на карце Слоніма, а пакуль на яе месцы будуецца некалькі дамоў...

### Уборка тэрыторыі

Некалькіх мясцовых жыхароў мы засталі за "уборкай тэрыторыі". Яны прыбіралі смецце, бялілі дрэвы. Відавочна, рыхтаваліся да свята. Так і аказалася, але была і іншая прычына.



*Анатоль Антонавіч*

— Усё мяняецца ў свеце, а ў нас жыццё робіцца ўсё цяжэйшым, — гаворыць жыхар вуліцы Чырвоных партызан Анатоль Антонавіч. — Каб якое добраўпарадкаванне вуліцы зрабілі, дык не... Вось прыходзіць участковы: "Давай, вуліцу прыбірай, а то штрафу дам!" Вось і прыбіраем, ды не толькі каля сваіх хат, але яшчэ і на другім баку вуліцы...

У той дзень там мянялі слупы электраперадач. Але на гэта мясцовыя жыхары мала звярталі ўвагу. Сапраўды, спакойная, ціхая вуліца.

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**

НАВІНЫ

## Кадравая палітыка ў дзеянні

**У калгасе "Зара" Мастоўскага раёна на працягу апошніх пяці гадоў змяніўся чацвёрты старшыня.**

Новым кіраўніком стаў Сяргей Курапацкі. У свой час ён працаваў заатэхнікам у гэтай гаспадарцы, але некалькі гадоў назад пакінуў пасаду і калгас. Яго папярэднік Міхаіл Каранец гаспадарыў там паўтара года. За гэты час ён здолеў набыць зламаны трактар "Кіравец" коштам амаль мільярд рублёў, але ад гэтага прывага буйной рагатай жывёлы не павялічылася і засталася самай нізкай у гаспадарках раёна.

**Антон МАКЕЙ**

## За чертой бедности

**Руководители сразу трех республиканских комитетов профсоюзов — работников образования, здравоохранения и культуры — приняли обращение к президенту А.Лукашенко в связи со складывающейся чрезвычайной ситуацией в этих отраслях вследствие крайне низкой оплаты труда.**

В обращении отмечается, что зарплата работников бюджетной сферы продолжает оставаться крайне низкой.

«Жизненный уровень работников наших отраслей, по сравнению с январем 1993 года, снизился втрое. В феврале текущего года среднемесячная заработная плата составила 78-85,6% от минимального потребительского бюджета, — подчеркивают авторы обращения. — Все большее число педагогов, медиков и работников культуры оказываются за чертой бедности, за грань выживания отброшены технический и обслуживающий персонал».

**БелаПАН**

ТРЫБУНА

# ЦІ ЗМЕНІЦЦА ЖЫЦЦЁ Ў ЛЕПШЫ БОК?

**4 красавіка, у дзень выбараў у мясцовыя саветы, каля ўчасткаў, дзе праходзіла галасаванне, карэспандэнты "ГС" звярнуліся да слонімцаў з пытаннем: "Чаго вы чакаеце ад выбараў?". Вось што яны пачулі ад людзей, якія толькі што прагаласавалі.**

***Ганна Раманаўна Мухарская*, пенсіянерка:**



— Я думаю, што будзе лепш, бо вельмі ўжо цяжка нам жыць, пенсіянерам...

***Павел Іванавіч Пархуноў*, ветэран вайны**



— Спадзяюся на паляпшэнне. Вось ужо прамысловасць пачынае лепш працаваць, дысцыпліна наладжваецца... Павінны навесці парадак выбраннікі.

***Леанід Захаркевіч*, работнік сельгастэхнікі:**



— Чакаем, як звычайна, лепшага. Але чамусьці лепш не становіцца. Галасуем кожны год, а жыццё пагаршаецца.

***Жанчына* (фатаграфавацца і прадставіцца адмовілася):**

— Нічога добрага не чакаю. Галасуем-галасуем, а ўсё стаіць на месцы...

***Пётр Герасімчык*, вадзіцель:**

— Я, канешне, лепшага чакаю, бо зарплата зусім



маленькая на сённяшнія цэны. Таму цяжка жыць!

***Іван Якубейка*, рабочы ЖЭС-1:**



— Хто ж будзе дрэннага чакаць? Спадзяюся, што жыццё наша зменіцца ў лепшы бок.

***Пётр Арцёмавіч*, пенсіянер:**



— Ні на што добрае не спадзяюся, бо не відаць зменаў. Чаму ў такім выпадку хаджу на выбары? Каб нашы грошы на вецер не выкідалі.

***Марыя Рагозік*, рабочая маторарамонтнага завода:**



— Чакаем паляпшэння нашага жыцця. І для нас усіх, і для краіны...

***Іван Лукіч*, пенсіянер:**



— Хочацца, каб жыццё палепшылася. Каб пенсію давалі большую, а цэны сталі меншымі. Мы ўжо каўбасу за 700 тысяч рублёў купіць не можам, бо пенсія — 5 мільёнаў. Толькі ліверная нам па кішэні...

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 7 красавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.000 экз.
Заказ № 1017

ЭСЭ

# ШТО МЫ СВЯТКУЕМ?

Святкуем мы ўсё: рэлігійныя, дзяржаўныя і недзяржаўныя святы, дні нараджэння, юбілеі — была б нагода. Але калі, паклаўшы руку на сэрца, задумацца: а якія святы для нас сапраўды дарагія?

Як далёкі сон, узгадваю раніцу першага дня Каляды, калі мне было гадоў пяць-шэсць. Мы, дзеці, толькі ўставалі — чакалі цуда. І вось маці ўносіла ў хату рэшата з сенам, у якім былі схаваны няхітрыя падарункі: цукеркі, печыва, яблыкі... З пачуццём свята прачыналіся і ў першы Вялікодны дзень, калі з усяночнай маці (а часцей бабуля) прыносіла свянцоныя яйкі, булку, каўбасу і іншыя прысмакі. Якімі ўрачыстымі, незвычайнымі здаваліся дарослыя, калі садзіліся за стол "прычасціцца" і перш-наперш давалі пакаштаваць усяго свянцонага дзецям... Вось, бадай, і ўсё, што спараджала адчуванне свята ў далёкім дзяцінстве. Мо таму і цяпер Каляды і Вялікдзень для мяне сапраўдныя святы, бо "родам яны з дзяцінства"...

Нашаму пакаленню (дзецям дзяцей вайны) выпала нарадзіцца ў краіне, дзе дзяржаўныя святы ўспрымаліся як бутафорыя. Ні дзень кастрычніцкай рэвалюцыі, ні нават дзень Перамогі для маіх бацькоў і блізкіх землякоў-вяскоўцаў не былі ўласна святамі. Яны з'яўляліся тымі рэдкімі ў калгасе выхаднымі днямі, калі дома можна было зрабіць неадкладныя справы. На "кастрычніцкія" — выкінуць і вывезці гной з-пад каровы, на дзевятага мая, як правіла, — пасадзіць бульбу на прысядзібным участку. Помніцца, як на мае школьныя пярэчанні, што ў дзень Перамогі трэба святкаваць, а не бульбу садзіць, маці з горыччу казала: "Можа для каго гэта і свята, але не для нас... Ды і выхадных больш доўга не будзе, а бульбу ўжо пара садзіць...". Пазней я даведаўся, чаму гэта свята "не для нас"...

Летам 1941 года мая бабуля і вяскоўцы адстаялі, не далі немцам расстраляць дзеда-салдата, калі той вярнуўся дамоў з-пад Гродна. Камандаванне пакінула салдат на чале з яфрэйтарам бараніць горад ад ворага адной вінтоўкай на дзесяцёх чалавек... Колькі разоў пасля бабуля пераказвала мне са слоў свайго мужа (а майго дзеда) тую ваенную гісторыю. Немцы абышлі бокам вайсковую частку, у якой апынуліся служыць у першыя дні вайны навабранцы з вёскі Вострава Слонімскага раёна Іван Карпач і некалькі яго землякоў. Камандзіры ўцяклі раней, пакінуўшы на волю лёсу ўчарашніх мабілізаваных сялян. Адзіны яфрэйтар звярнуўся да іх са словамі: "Усё, браткі, адваяваліся. Прадалі нас начальнікі. Хто мясцовы — прабірайцеся дахаты, а там — як Бог дасць".

Дахаты дзед дабраўся, але ўжо ў Востраве патрапіў на вочы немцам, бо галава была падстрыжаная "пад нуль". Немец адразу: "Рус зольдат", — і да сцяны. Бабуля — на калені і фотаздымак сямейны паказвае, на якім ён з дзецьмі (маёй маці і цёткай) на руках. А тут, на шчасце, вяскоўцы побач аказаліся, прасіць пачалі, каб "не сіраціў паночак дзяцей". Адстаялі.

— Гадуй кіндэр, — сказаў на развітанне афіцэр і паказаў свой сямейны фотаздымак. У яго таксама былі дзве малыя дачкі.

Такая гісторыя з 41-га, а ў 44-ым годзе прыйшлі "свае". І па паклёпу суседкі, якая нашаптала п'яным энкавэдзістам, што дзед, маўляў, служыў у самаахове, таго арыштавалі. Не дапамаглі ні сведчанні вяскоўцаў-камуністаў пра яго няўдзел ні ў якой самаахове, ні слёзы жонкі і дзяцей. Забралі назаўсёды...

Ніколі не было ў нашай сям'і ўрачыстасцяў з нагоды эсэсэсэраўскіх святаў. Але нічога тут не змянілася і за часы найноўшай гісторыі. Наогул, тыя, каго называюць простымі людзьмі, народам, дзяржаўныя святы як бы абыходзяць бокам. Людзі не адчуваюць ні гонару за сваю дзяржаву, ні патрыятычных пачуццяў да яе. Але тыя ж людзі добра адчуваюць стаўленне дзяржавы да сябе. У тым ліку і ў дачыненні святаў, якія спрадвечна святкаваліся на Беларусі. Колькі ў свой час было радасці ў вернікаў праваслаўнай і каталіцкай канфесіяў, калі Дзяды, Радуніца, Каляды, Вялікдзень сталі святочнымі днямі на дзяржаўным узроўні. Здавалася, хоць у гэтым традыцыя вярнулася... І вось прэзідэнт сваім указам "карэкціруе" святы. Сэнс такой карэкцыі зводзіцца да скарачэння святочных і выхадных дзён. Пры гэтым "карэкціроўка" зроблена не на карысць каталікоў. І больш таго, менавіта на каталіцкі Вялікдзень сёлета назначаюцца выбары ў мясцовыя саветы. Маўляў, пасля ўсяночнай і святкавання за сямейным сталом у самы раз будзе выканаць свой грамадзянскі абавязак на выбарчым участку. Што ж, калі грамадства расколата на багатых і бедных, на ўладумаючых і апазіцыю, дык чаму б яшчэ не згуляць на пачуццях вернікаў... Адно не зразумела — дзе тут здаровы сэнс? Бо прэзідэнцкім указам не задаволены ні каталікі, ні праваслаўныя. Вернікі лічаць вялікім грахом працаваць на другі дзень Вялікадня ці Калядаў. З гэтай нагоды пішуць скаргі рознаму начальству, у рэдакцыі газет, у тую ж адміністрацыю прэзідэнта. Неяк у рэдакцыі "ГС" слухаў набалелае слонімскай верніцы. Жанчына прыйшла сюды шукаць дапамогі, падтрымкі ў пытанні святкавання рэлігійных гадавых святаў. Слухаў і ў нейкім сэнсе радаваўся — людзі ўжо не тыя, што гадоў дзесяць назад. Усё "праглынаць моўчкі" яны больш не жадаюць. А гэта надае хоць нейкага аптымізму. Хочацца верыць, што надыдзе час, калі не ўказамі якогась "праваслаўнага атэіста" будзе рэгламентавацца жыццё і святы ў нашай краіне, а традыцыі і Канстытуцыі. І можа тады з'явіцца дзяржаўнае свята Беларусі, якое, паклаўшы руку на сэрца, будзе лічыць святам кожны беларус.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРОШУ СЛОВА

## Варварство в парке

Я живу в Слониме 55 лет, но такого варварства по отношению к природе и людскому труду еще не видела. Не могу спокойно смотреть, как пилят деревья в городском парке. Изуродовали единственное место отдыха на берегу канала Огинского. Рабочие говорят, что делают это они якобы по указанию мэра, грачи, мол, плохо себя ведут и ураганы ожидаются, а деревья старые... и прочее. Молодые деревья тоже поломали. Никто не контролирует это омоложение парка. Дорожки, газоны, заборы вокруг детской площадки поломали, разбиты урны для мусора. А ведь прошло не более двух лет с того времени, как был реставрирован парк, который стал настоящим местом для отдыха. Сейчас все его великолепие уничтожается, хотя на реконструкцию было затрачено немало средств. Между прочим, средств налогоплательщиков. За последнее время не посажено ни одного дерева, ни одного куста. От бывшего фонтана, украшенного фигурками оленей и лягушек, ничего не осталось. Когда-то в парке была лодочная и гребная станции, буфеты, танцевальная и концертная площадки, бильярдная, зимой — каток. Еженедельно играл военный оркестр, проходили смотры художественной самодеятельности предприятий. В последнее время праздники в парке превращены в открытое пьянство, после которого мусор вывозят машинами. В парке сейчас пасутся... лошади, бывшая бильярдная превращена в туалет. Может этот мой вопль заставит мэра, отдел культуры горисполкома и инспекцию по охране природы прийти в парк и посмотреть, что с ним сделали.

**С уважением, жительница Слонима Елена Алексеевна ВЛАСОВА**

ГУМАРЭСКА

# ГРЭШНАЯ ДУША



Тоўстая, як запарнік, Маня Пружэвіч абаперлася аб плот, аж затрашчалі ляскі, і гукнула сваёй сяброўцы Лёдзі Макрыцы:

— Мо ты час маеш, то схадзі да Адэлі Казліхі і скажы, што сёння буракі з дзялак будзем вазіць. Брыгадзір казаў. Грузіць будзем па чарзе: табе, мне і ёй.

— То няхай і яе Казёл паможа, — прапанавала Лёдзя, — бо мы спруцянеем, грузячы столькі.

— Га? — не дачула глухаватая Маня.

— Баба Яга, — перадражніла сяброўка. — Казёл, кажу, хай паможа.

— Паможа ён, як жа. Бачыла, ужо з самай раніцы панёсся на ровары да магазіна. Няйнакш па віно.

— А каб яго з вадой панесла, — абурылася тая. — Дарэчы, пра віно. У мяне пляшка ёсць. Паклічам Казліху і вып'ем, каб лягчэй грузілася.

Кульнулі па кубку і падаліся на палетак. Працавалі, як апантаныя. А як ты не будзеш старацца, калі іншыя на пяты наступаюць. Вядома ж, усім хочацца здаць, бо не сёння-заўтра мароз прыцісне.

Правалэндаліся на тым палетку аж да самага вечара. Ідучы дадому, скіравалі ў магазін і прыхапілі яшчэ дзве пляшкі віна. Выпілі ў Мані і разышліся па хатах. Уходжвацца.

Толькі ўзліла Лёдзя парасятам, як дзверы адчыніла Адэля Казліха і з парога заламантавала:

— Бабы, мой Казёл павесіўся! Скажы Мані. Ды хутчэй дапамажыце зняць.

І знікла, нібы той палтэргейст.

Лёдзя ўтрупянела. Яна надта баялася вісельнікаў. Да Адэлі трэба было перціся ледзь не на другі канец вёскі. Пакуль пераапранешся, пакуль сходзіш да Мані, то Казёл той заморыцца вісець.

— Ат, суседзі здымуць, — махнула рукой.

Але ж ісці трэба, бо ў сяброўкі бяда.

Гукнула Мані, каб збіралася. Завязалі чорныя жалобныя хусткі, апранулі чысцейшыя сачыкі і пайшлі.

— Ад гарэлкі задушыўся, шэльма, — выказала меркаванне Маня. — Гэдак жлукціў кожны дзень.

— Пэўна што, грэшная душа, — згадзілася сяброўка.

Яны здзівіліся, што на падворку і ў хаце Казлоў было вельмі ціха — ні людзей, ні гаспадыні. Зірнулі за занавеску і ўбачылі: узапечку на ложку ляжыць Казёл.

— Адэля, напэўна, пабегла каго прасіць, каб з'ездзіў у райцэнтр ды радні тэлеграму даў. Але дзяцей няма, то не надта хто і паедзе. Цяпер такая дарога дарагая, — выказалася Маня.

— Ты не балабонь, а давай будзем мыць нябожчыка. Што дарэмна час траціць, — прапанавала Лёдзя.

— Каб пахмяліцца, — асцярожна выказала пажаданне Маня.

— Мы і так яшчэ не працверазелі. Дап'емся некалі, як гэты Казёл — у пятлю палезем. Ніякай пахмелкі!

Маня знайшла анучку, каб мыць нябожчыка, і хацела паставіць на газавую пліту каструлю з вадой.

— На чорта яе грэць, — запярэчыла сяброўка. — І халоднай добра будзе. Ён нас пры жыцці п'яніцамі абзываў, а ты яму — ваду грэць? Газ цяпер дарагі, не трэба марнаваць.

— Цемнавата ў запечку, лямпачка перагарэла...

— Нічога, не маладую да шлюбу збіраем. Памыем упоцемку.

Яны налілі ў тазік халоднай вады, і Маня пачала распранаць нябожчыка.

— Дапамажы сарочку зняць. Цяжкі, як калода.

— Упору мы прыйшлі. Яшчэ не ўстыў.

Яны звалаклі з Казла ўсю вопратку, саставілі ўпоруч табурэткі, перанеслі нябожчыка, і Лёдзя, добра намачыўшы анучку, пляснула яе на грудзі Казлу. Пацерла. Потым намачыла яшчэ і пляснула на твар. Казёл, які ўжо гадзіну знаходзіўся ў глыбокім сне, знянацку схапіў яе за руку і мацюкнуўся так, што пад столлю заміргала адзіная лямпачка, якая асвятляла хату.

Сцяміўшы, што ляжыць перад кабетамі голы, Казёл ускочыў і, схапіўшы цяжкі гумовы бот, шпурнуў яго ў знямелую Лёдзю. Тая хрысцілася і задам адступала да дзвярэй.

— Ажыў паганец! Вісельнік! Такіх і пятля не задушыць! — лямантавала Маня. — Нашы мужыкі паўміралі, а гэты алкаш і ў вадзе не тоне, і ў агні не гарыць, і пятля яго не бярэ! — крычала яна ўжо з-за парога.

— Чаго гэта вы такія ўтрапёныя ды яшчэ ў чорных хустках. Памёр хто? — высунулася з-за плоту Адэля.

— Дык Казёл твой быў павесіўся, а як мы сталі яго мыць, уваскрэс...

— Дурніцы! Зусім мазгі адпілі. Мой казёл Меркятун павесіўся на суседавым паркане. Цяжкі, як з гліны. Адна зняць не магла, па вас пабегла. Дык вось калі вы з'явіліся, паненкі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## Зладзейка з Ваўкавыска

**У мінулую нядзелю на Слонімскім гарадскім рынку міліцыя затрымала жыхарку вёскі Падароск Ваўкавыскага раёна.**

Яна ўкрала з кішэні жанчыны 3,5 млн.руб. Пры дастаўцы ў аддзел, затрыманая спрабавала даць хабар міліцыянерам, каб яе адпусцілі.

## Абакралі краму

**Ноччу невядомыя, адключыўшы сігналізацыю, зламалі замкі ў магазіне вёскі Чарлёна Мастоўскага раёна.**

З крамы знікла тавару на суму звыш 10 млн.руб.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Трагедыя ў Польшчы

**У выніку аўтамабільнай аварыі ў Польшчы загінулі двое мастоўскіх камерсантаў, муж і жонка К.**

Сіратамі засталіся двое дзяцей.

## П'яны п'янага пераехаў

**На каляі, якая звязвае чыгуначную станцыю Масты і акцыянернае таварыства "Мастоўдрэў", цеплавоз наехаў на мужчыну.**

Высветлілася, што апошні на добрым падпітку лёг адпачыць прама на рэйках. Пазней стала вядома, што п'яным быў і машыніст цеплавоза.

**Антон МАКЕЙ**

## ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ КОНКУРСУ "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?" ад "Kodak-ЛЮКС"

**На працягу трох месяцаў на старонках нашай газеты доўжыўся гумарыстычны конкурс "Што б гэта значыла?". Высвятляецца, што конкурс чытачам спадабаўся. Пра гэта яны расказвалі ў сваіх пісьмах, тэлефонных званках, пры сустрэчах.**

І вось падведзены яго вынікі. Урачыстасць з гэтай нагоды адбылася ў слонімскім кафэ "Шчара", куды былі запрошаны самыя актыўныя ўдзельнікі конкурсу.

За "салодкім сталом" адбылося знаёмства з прысутнымі. Кожны з іх расказаў пра сябе, выказаў думкі пра "Газету



Слонімскую". Нагадаем, што ў конкурсе прымалі ўдзел не толькі жыхары Слоніма і раёна, але і чытачы газеты з Зэльвы, Мастоў, Дзятлава. Школьніку Яўгену Скрабутану з Зэльвы быў уручаны падарунак ад "Кодак" за актыўны ўдзел у конкурсе. У Слонім ён прые-



хаў з мамаю. Гэта ў ягоным жыцці першая ўзнагарода.

Сувеніры ад "Кодак" атрымалі Лілія Пруднікава з Сянькоўшчыны, Юрый Ягаўдзік, Віктар Навасёлаў, Наталля Эгерд, Наталля Башко, Дзмітрый Міронаў са Слоніма, Таццяна Бялько з Дзеравянчыц.

А суперпрыз дастаўся самай актыўнай удзельніцы конкурсу Святлане Болцік. Яна ўзнагароджана фотаапаратам фірмы "Кодак". Святлана працуе ў ваенным



лясніцтве, выхоўвае траіх дачок. Таму фотаапарат ёй будзе дарэчы.

Усе прызы і падарункі ад "Кодак" уручыў яго прадстаўнік Яўген Каракоў. Дарэчы, ён расказаў прысутным гісторыю фірмы "Кодак", запрасіў усіх часцей наведваць магазіны "Юбілейны", "1000 дробязей", "Ваенторг", "Дружба", дзе знаходзяцца аддзелы "Кодак".

Конкурс "Што б гэта значыла?" закончыўся. Але засмучацца не трэба. Праз



пэўны час "Газета Слонімская" пачне новы конкурс. Да сустрэчы на старонках "ГС".

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

**Ад рэдакцыі.**

Пераможцаў конкурсу Святлану і Ларысу Казловых з Партызанаўкі і Таццяну Тарасік са Слоніма, якія адсутнічалі на ўрачыстасці, просім зайсці ў рэдакцыю і забраць свае прызы.





## НАВІНЫ

### Багустаў вяртаецца ў Масты

**У мастоўскім музеі "Чалавек і лес" адкрылася выстава мастака Аляксея Багустава.**

Імя яго добра вядома ва ўсёй Беларусі. У свой час ён быў дырэктарам Мастоўскай школы мастацтваў, цяпер працуе выкладчыкам у Гродне. Тэма яго творчасці — прынёманскі край: людзі і прырода.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# ГОРОСКОП

## С 8 ПО 14 АПРЕЛЯ



**ОВЕН**

Вам предстоит пережить два нелегких события. Первое - обвинение в неверности (будьте снисходительны к партнеру, он практически не виноват - так случилось!), второе - известие о приезде не самых дорогих гостей. На работе - приятная неожиданность.



**ТЕЛЕЦ**

Деньги от вас не уходят, напротив - просто плывут в карман. Но стоит на некоторое время прекратить всякую деятельность, так как возможны не совсем чистые сделки и далеко небезгрешное сотрудничество. Вернитесь в свой светлый мартовский роман, и все будет прекрасно.



**БЛИЗНЕЦЫ**

Вам предстоит короткое служебное "путешествие". Не стоит от него отказываться, хотя на первый взгляд дорога покажется малоприбыльной и неперспективной. Разберитесь с партнером, активизируйте личную жизнь! Большая поддержка от близких.



**РАК**

В личной жизни будьте готовы к приятным неожиданностям и авантюрным отношениям. В профессиональной сфере получите признание и очень выгодное предложение. Но стоит семь раз отмерить, прежде, чем вы что-то решите.



**ЛЕВ**

Все, что вы запланировали для обустройства дома в этот период, будет сопровождаться особым успехом. Воспользуйтесь случаем. Многие из вас заработают немалую сумму, или заключат сделку, которая принесет деньги в ближайшие 10-15 дней.



**ДЕВА**

Девы, обремененные семейными узами, могут не читать прогноз: у них все по-старому. Но вот холостякам придется пережить непростую неделю - или вы решаетесь, наконец, открыть свое сердце любимому человеку, или пишите - пропало. Ждать вас годами никто не станет.



**ВЕСЫ**

Если у вас есть возможность, возьмите короткий отпуск за свой счет, и не появляйтесь на работе - слишком много проблем. Зато личная жизнь будет настолько улаженной и счастливой, что лучше поберечь ее от чужих глаз - обзавидуются!



**СКОРПИОН**

Вас нельзя отнести к слабым людям, но велик риск депрессий и приступов дурного настроения. Вы будете плохо контролируемы и способны навредить сами себе больше, чем любой, даже самый коварный враг. Потрудитесь договориться с начальством, иначе головомойки не избежать.



**СТРЕЛЕЦ**

Берегите здоровье, иначе период, который обещает неплохой доход, просто "уплывет" от вас. А опасаться стоит не столько простудных или инфекционных заболеваний, сколько - дорожных травм. Стрельцы-водители должны быть предельно аккуратны.



**КОЗЕРОГ**

Вас ожидают значительные финансовые потери. Берегитесь людей из знака Водолея или Близнецов. На весь период лучше прекратить с ними всяческие контакты. Очень неплохой период для холостяков-Козерогов, а также для детей из этого знака. Удача на их стороне.



**ВОДОЛЕЙ**

Вы будете поглощены домашними проблемами, скорее всего они связаны с младшими членами семьи. Будьте также предельно внимательны к любым предложениям, которые касаются вашей личной жизни - возможны обманы или мошенничество.



**РЫБЫ**

Очень нестабильная ситуация в личной жизни: если вы хотите что-то изменить к лучшему - нечего дожидаться "милостей от природы", будьте любезны сами о себе позаботиться. Мужчины-Рыбы на грани срыва, женщины получат хорошую прибыль.

## АНЕКДОТЫ

☺ Из сообщений югославских СМИ: сбито два самолета и пять крылатых ракет. Опровержение из США: все самолеты и крылатые ракеты вернулись на базы.

☺ Объявление в газете: «Продам на запчасти F-117 в аварийном состоянии. Самовывоз из Югославии».

☺ Мужика укусила собака его приятеля.
— Придется немедленно отвезти вас в больницу - говорит врач, - собака была бешеная.
— Хорошо, только подождите меня, я прежде сбегаю и покусаю ее хозяина!

☺ — Дайте мне газировки!
— Вам с сиропом или без?
— Без.
— А вам без какого — без апельсинового или без клубничного?

☺ — Владимир Ильич! Вы ведь сами говорили - Учиться, учиться и учиться!
— Да ничего я не говорил. Я ручку расписывал.

☺ Жена спрашивает у доктора о здоровье мужа после операции:
— Доктор! Есть надежда?!
— Смотря на что вы надеетесь...

☺ На мужском пляже, укрыв лицо газетой, лежит голый мужчина.
Мимо проходят три женщины. Первая:
— Это не мой муж.
Вторая:
— Да. Это не твой муж.
Третья:
— Он вообще не из нашего санатория.

☺ Полицейский - малолетней проститутке:
— И что бы сделала твоя мать, если бы увидела тебя здесь?
— Да она бы меня убила! Это ее территория...




**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Фралова Яўгенія
Урбановіч Таццяна
Якімовіч Аляксандр
Матушка Дар'я
Грыпіч Карына
Каўнова Аляксандра
Кароцька Сяргей
Яневіч Канстанцін
Рукан Паліна
Юднікаў Ігар
Закудоўскі Раман
Лагуцік Вера



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | |
|---|---|
| **Чуйкевіч** Валянціна Уладзіміраўна | 1936 г.н. |
| **Юрчык** Сяргей Іванавіч | 1968 г.н. |
| **Піменаў** Святаслаў Валянцінавіч | 1951 г.н. |
| **Дэйка** Марыя Піліпаўна | 1929 г.н. |
| **Жыліч** Васіль Іванавіч | 1948 г.н. |

Коллектив гр. 7МБ, классный руководитель и мастер производственного обучения Слонимского ПТУ-189 выражают глубокие соболезнования учащемуся **Пименову** Дмитрию в связи с постигшим его горем — смертью отца.

